


*З родным словам кроў не стыне...*
*А. Бабаед*

# КАРДОН

№2

верасень 1999

Інфармацыйна – публіцыстычны бюлетэнь бешанкавіцкага «Таварыства беларускай мовы»

## РОДНАЯ МОВА

*Гвалтавалі, душылі,*
*Кайданы спрабавалі надзець.*
*З тых стагоддзяў сівых і цяпер*
*Пагарджаюць табою.*
*Ды не згінула ты,*
*Ты жывая ў сэрцах людзей*
*І майго пакалення, -*
*З трывогай, з надзеяй, з любоўю.*

*Ты ўвабрала адценні*
*І сонца, і неба, і зор,*
*Шолах нівы пад ветрам*
*У час непаўторны світання.*
*Ты адкрыла мне веліч прыроды*
*І думкі прастор,*
*Асалоду шляхоў непазнаных,*
*Трывогу чакання.*

*Звон аб прыпек патэльні*
*І танец у печцы агню,*
*Плёскат рэчкі і бульба*
*Смачней за якой не бывае-*
*Усё на матчынай мове*
*Было ў мяне ўпершыню:*
*І каханне, і вершы,*
*І поле жытнёвае ў маі.*

*Без цябе згінем мы*
*І загіне навекі наш род.*
*Без цябе знікнем мы,*
*Як пясчынкі ў агромістым моры.*
*Зразумей жа нарэшце,*
*Ты, дзіўна спакойны народ,*
*Беражы сваю мову і памяць,*
*Каб мінула страшнае гора.*

*Георгій Станкевіч,*
Вёска Старыя Ранчыцы



## ТБМ ПЕРАРЭГІСТРАВАНА.

*6 верасня Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны прайшло перарэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь. Перарэгістравана і сімволіка ТБМ, якую вы бачыце злева ад назвы "КАРДОН". У цэнтры на сінім фоне жоўтая выява герба Францыска Скарыны – сонца і паўмесяц; уверсе выява Пагоні: чырвонага колеру шчыт з вершнікам на ўздыбленым кані, за шчытом – бел-чырвона-белая стужка, якая перакрывае круг з надпісам "ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ".*

***В.Гракун***
**Кіраўнік Бешанковіцкай суполкі ТБМ**

## ВОСЬМАГА ВЕРАСНЯ - ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ

8 верасня 1514 года пад Оршай на рацэ Крапіўне беларускае 30-тысячнае войска разбіла 80-тысячнае маскоўскае войска, якое напала на Беларусь. Гэта гістарычная перамога выратавала незалежнасць Беларусі і замацавала на стагоддзі ўсходнюю мяжу.

Сення ўлады, заклапочаныя інтэграцыйнымі памкненнямі, замоўчваюць перамогу пад Оршай,не прызнаюць яе як свята. Але вынішчыць з памяці яе немагчыма. Беларусы, сапраўдныя патрыёты, ганарацца славай сваіх продкаў, якія пяць стагоддзяў таму збераглі сваю незалежнасць, сваю мову і культуру. На жаль, многія з нас забываюць і сваё паходжанне, і мову продкаў, і іх пралітую кроў. Вось як распавядае пра Аршанскую сечу прафесар, доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч:

" У XVI стагоддзі Беларуска-Літоўская дзяржава вяла амаль безупынную барацьбу , адстойваючы сваю незалежнасць.

Маскоўскае княжаства ўзмацняла свой ціск на Беларусь з мэтай захапіць яе землі. У 1514 годзе маскоўскія войскі захапілі моцную беларускую крэпасць Смаленск і рушылі далей. Насустрач захопнікам накіравалася войска пад камандай князя Канстанціна Астрожскага, у якім была большасць беларускіх ваяроў. Асобныя атрады ўзначальвалі Юрый Радзівіл і Іван Сапега.

Войскі сышліся паміж Оршай і Дуброўнам, пры ўпадзенні ў Днепр ракі Крапіўны. Маскоўскія ваяводы былі ўпэўненыя ў сваёй перамозе, іх войска ледзь не ў тры разы пераўзыходзіла колькасна. Але на сцягу Астрожскага былі выявы Пагоні і Багародзіцы, на дзідах коннікаў – бел-чырвона-белыя сцяжкі, а за іх спінамі – Радзіма, якую трэба бараніць.

*Працяг на другой старонцы*

# МЫ ПАВІННЫ ПАМЯТАЦЬ ПРА ВЕРАСЕНЬ 1939 ГОДА

Адраджэнне і росквіт беларускай нацыі ў пачатку стагоддзя былі спынены Першай сусветнай вайной і бальшавіцкім пераваротам 1917 года. Але 25 сакавіка 1918 года паўнамоцныя прадстаўнікі шматнацыянальнага беларускага народа абвясцілі ў Менску нашую незалежнасць. Першага студзеня 1919 года бальшавікі мусілі падцвердзіць гэты акт, уключыўшы ў межы ССРБ усе беларускія землі.

Аднак ужо праз некалькі тыдняў яны пачалі гандляваць нашай Бацькаўшчынай і ў выніку дамоваў 1920 года, а таксама ганебнай Рыжскай дамовы ў межах БССР засталася толькі частка былой Мінскай губерні.

Пачалося чарговае вынішчэнне ўсяго беларускага на польскай частцы – рэжымам Пілсудскага, на савецкай - рэпрэсіі і Курапаты.



*Беларусь пасля Рыжскай дамовы*

У жніўні 1939 года, пасля пакту Молатава-Рыбентропа, быў здзейснены новы перадзел Еўропы. Дзве часткі Беларусі – Усходняя і Заходняя – нарэшце аб'ядналіся, дзякуючы часоваму супадзенню савецка-нямецкіх інтарэсаў. Беларускія сяляне, якія ў Польскай дзяржаве лічыліся людзьмі не першага гатунку, з кветкамі сустракалі Чырвоную армію.

Але ўжо 30 кастрычніка саюзны ўрад перадаў Літве беларускія Вільню, Трокі і Друскенікі. Да Польшы адышлі Беласток з добрым кавалкам Белавежскай пушчы. Аднак ядро беларускіх земляў засталося.

Новай Рыжскай дамовы ўжо ніколі не будзе.

З Заявы Старшыні ТБМ кандыдата гістарычных навук
***Алега Трусава***

## ЛІСТ НАСТАЎНІЦЫ

***У рэдакцыю прыйшло пісьмо. Піша настаўніца, але назваць сябе яна не рызыкнула. Што ж, такі час, яе можна зразумець. Друкуем яе ліст амаль без змяненняў.***

Зусім нядаўна пачаўся навучальны год,малыя упершыню селі за парты.Ад таго,якімі мы іх вылепім,залежыць што мы ўбачым у краіне праз 20-30 гадоў.

На жаль, многія з гэтых дзяцей будуць вучыцца не на роднай, а на рускай мове.У нас дзве дзяржаўныя мовы, але колькасць беларускамоўных класаў штогод памяншаецца, а рускамоўных – расце.

Ва ўсім свеце людзі цэняць, паважаюць і берагуць сваю родную [illegible] ў [illegible] чытае і не піша на роднай мове.

Ну ці не дзіва: ў г.п.Ула, дзе гавораць такое зацвярдзелае "р", што яго і камнем не разбіць, ёсць толькі рускамоўная школа! І ў выніку дзіця, якое гаварыла да школы: "грубка", "гузік", "жакетка", забываецца родныя словы. Як жа, сорамна размаўляць, "как колхозник". Але карані бяруць сваё і ў спалучэнні з рускімі не-не ды і мільгане беларускае слова. Атрымліваецца сумнавядомая "трасянка", а нашы выпускнікі не ведаюць добра ні сваю, ні рускую мову.

Якое ж права маем мы пазбаўляць дзіця магчымасці ведаць сваю родную мову? Я ні ў якім разе не прыніжаю рускую мову, як і ніякую іншую. Але, хто не змог ацаніць сваёй мовы, наўрад ці ацэніць і іншую. Так і застанемся абкрадзеныя духоўна, занікбелыя, калі не зразумее кожны, што нельга адракацца ад роднага слова, здабытага ў вяках. Ці можам мы з чыстым сумленнем глядзець у даверлівыя вочы дзяцей?

Без подпісу
(імя аўтара рэдакцыі вядома)

## БУДНІ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

Быць прадпрымальнікам у Беларусі няўдзячная справа: то прэзідэнт "вшивой блохой" абзаве, то падатак павялічаць, то пакупнікі абураюцца высокай цаной.

З першага верасня непрывычна пустымі былі гандлёвыя рады на рынку ў Бешанковічах. Як і ў многіх іншых гарадах, прадпрымальнікі ўзялі вымушаны "адпачынак". У чым справа? На мае пытанні адказваюць самі гандляры. Але яны настолькі запалоханыя штрафамі і пратаколамі, што ні адзін не адважыўся адкрыта назваць сваё прозвішча.

***-- Чаму вы не гандлявалі?***

-Баяліся і зараз баімся. Уступіў у дзеянне нейкі новы парадак, у нас патрабуюць [illegible] якія невядома як і дзе ўзяць. Напрыклад, [illegible] валюты ў банку (калі б яна там была, тая валюта) накладныя на тавар (а мы ж самі ўсё купляем на маскоўскім рынку, якія там накладныя?) і іншае.

***-- Дык у вас не забастоўка?***

Не, гэта стыхійнае спыненне працы. У нас няма ні арганізацыі,ні лідэра, ні прафсаюза, якія б абаранялі нашы правы. Мяркуем, што трэба неяк аб'ядноўвацца, але пакуль што кожны ратуецца паасобку

***-- Колькі каштуе месца на рынку?***

- 300 – 360 тысяч рублёў.

З афіцыйных крыніц я даведалася, што калі за апошнія выхадныя ў жніўні было сабрана за месцы 30 мільёнаў, то ўжо ў наступныя вераснёўскія выхадныя – толькі 13 мільёнаў. У будныя дні паступленні меншыя, але параўнаем: 25 жніўня – 5 мільёнаў, 3 верасня – 1,5. Страты значныя. А колькі страцілі самі гандляры і пакупнікі нават падлічыць немагчыма.

***В.Гракун***

***

***Анічога няма ў нас ад Бога,***
***Бо ўсё меней у нас святароў.***
***На якую не ўзб'ёмся дарогу,***
***Наламаем,па звычаю ,дроў.***
***Ах ты,долечка,горкая доля!***
***У душы ні святла ,ні надзей.***
***Па якому мы коцімся полю,***
***Пакідаем старых і дзяцей?***
***На мяжы невыноснае стомы***
***І счарнелай ад страху начы***
***Колькі можна трываць?***
***Не-вя-до-ма ! –***
***Рэхам слова людское гучыць.***
***Як жаданае прагну я волі!***
***Пра яе толькі словы наўкол…***
***Выйду ранкам у роднае поле***
***І абрынуся крыжам на дол.***

***Алесь Бабаед***

## *ВОСЬМАГА ВЕРАСНЯ - ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ*

***(Працяг, пачатак на першай старонцы)***

Бітва працягвалася ўвесь дзень і скончылася поўным разгромам маскоўскага войска, якое страціла палову забітымі, частка трапіла ў палон, астатнія, адступаючы, разбегліся па лясах і балотах. Наступ на Беларусь быў часова спынены. Усходняя мяжа ўсталявалася амаль там, дзе яна праходзіць і зараз. Смаленск застаўся за Расіяй, але і ў дзевятнадцатым стагоддзі царскі ўрад лічыў яго беларускім горадам."

Святкаванне гадавіны Аршанскай бітвы пачалося сем гадоў тамуў 1992 годзе. Сёлета адзначаюцца 485-я ўгодкі. Прыйдзе час, і гэты дзень стане дзяржаўным святам незалежнай Беларусі.

***Я.Мірон***



# ПАМЯЦІ АЙЦА АЛЯКСАНДРА.

Трагічна абарвалася зямное жыццё маладога святара айца Аляксандра ( Аляксандра Аляксандравіча Кісяля). 17 кастрычніка яму б споўнілася 26 гадоў. Засталіся сіротамі двое маленькіх дзетак-трохгадовы хлопчык і немаўляткадзяўчынка. Засталася справа,якую ён так марыў здзейсніць. Засталіся светлая памяць і смутак у сэрцах праваслаўных вернікаў, ведаўшых і паважаўшых гэтага чалавека,які ў такім маладым узросце так аддана і самаахвярна служыў Богу і людзям.

Айцец Аляксандр нарадзіўся ў вёсцы Пясова Столінскага раёна Брэсцкай вобласці.Вучыўся ў Віцебскім Епархіяльным Духоўным вучылішчы. Служыў у Свята-Міхайлаўскай царкве ў Наваполацку, пасля ў Свята-Казанскай царкве ў Віцебску. У гарадскі пасёлак Ула быў накіраваны з мэтай аднаўлення мясцовай Свята-Троіцкай царквы. З захапленнем узяўся за справу. Часова, да пачатку набажэнстваў у Уле, праводзіў службу ў Дабрыгорскай Свята-Нікольскай і Бешанковіцкай Свята-Ільінскай цэрквах.



Так выглядала царква ў г.п. Ула да пачатку рэстаўрацыйных работ. Помнік архітэктуры дзевятнадцатага стагоддзя,яна адстаяла шмат гадоў у запусценні напаўразбураная. Абваліўся галоўны цыбуленадобны купал над званіцай,зусім не стала чатырох вуглавых купалаў,абсыпалася штукатурка,на выступах укараніліся і выраслі бярозкі і рабіны. Сцены у час вайны былі параненыя снарадамі і кулямі, але цэгла такая моцная, што нават ад снарадаў засталіся не вельмі вялікія выбоіны. Арыгінальная кладка сцен і элементы архітэктурнай пластыкі нават у такім выглядзе прывабліваюць вока.

Вясной гэтага года мне давялося завітаць у Улу. Абыйшлі вакол царквы і парадаваліся, што яе пачалі адбудоўваць, да самага верху узняліся будаўнічыя лясы. Зараз там зноў пануе цішыня.

Вядома, рэстаўрацыя будзе прадоўжана.Прыедзе новы святар.

А мне хочацца пакланіцца перад светлай памяццю загінуўшага айца Аляксандра. Хто верыць-памаліцеся, хто не вельмі схільны маліцца-памяніце добрым словам добрага чалавека.

***В.Гракун***

*Працяг,пачатак у першым нумары*

## Часка другая . МАЯ ГІСТОРЫЯ

Закончыўшы дзесяцігодку на адны пяцёркі, над пытаннем "куды пайсці вучыцца далей?" я доўга галаву не ламаў –сельгасакадэмія. Бацькі не адгаворвалі. Для семнадцацігадовага юнака, які аддана любіў свой родны кут і навакольную прыроду, лепшай прафесіі, чым прафесія аграном не бачылася. Я стаў у чаргу за дыпломам і праз пяць гадоў атрымаў яго, нават "чырвоны".

Мой першы калгас - імя Дзімітрава Бешанковіцкага раёна. Пасля саракарублёвай стыпендыі зарплата ў 260 рублёў здавалася неверагодна вялікай. Каб яе як мага лепш адпрацаваць, я пешшу абыходзіў усе палі, калі-небудзь і па два разы на дні. Хутка я заўважыў, што не ўсе спецыялісты працуюць гэтак жа старанна. Хацелася думаць, што гэта хутчэй выключэнне, чым правіла. Але за дванадцаць год пераканаўся ў адваротным. У калгасах склалася нейкая крывабокая мараль, калі добра працаваць-гэта дрэнна, а нічога не рабіць і атрымліваць грошай больш за працуючых калгаснікаў - добра. Гэтую мараль ускарміла калектыўная ўласнасць, калі ўсё навокал маё і разам з тым нічыё. Згодна з гэтай мараллю і сёння раскрадаецца апошняе з калгаснай "скарбонкі": зерне, угнаенні, гаручае, запчасткі, будматэрыялы і г.д. У дзевяностых гадах, калі атрымліваемыя калгаснікамі заробкі перасталі забяспечваць пражытачны мінімум, гэтая "мараль" стала ледзь не агульнай нормай. Хто мае магчымасць - крадзе тонамі, а хто мяшком ці толькі ў кішэні. Украдзенае часцей за ўсё мяняецца на гарэлку. Павальнае п'янства стала неадрыўнай прыкметай калгаснай вёскі. "Я п'ю, бо страшна глядзець на гэта жыццё цьверозымі вачыма". - казаў мне адзін знаёмы старшыня. Яшчэ страшнейшай уяўляецца наша будучыня, гледзячы на дзетак п'яніц-калгаснікаў.

А зямелька сумуе без гаспадара.

## Частка трэццяя. КАНЕЦ МАЁЙ АГРАНАМІЧНАЙ КАР'ЕРЫ

Мая першая сяўба-85 увайшла ў маё жыццё і засталася там назаўсёды, як найвялікшае свята. Я не шкадаваў сваіх ног і за два-тры тыдні да пачатку пасяўных работ ужо дэталёва ведаў, дзе я пачну сеў і дзе яго закончу. Я добра разумеў, што ад працы агранома прама прапарцыянальна залежыць будучы ўраджай. І не было выпадку, каб трактары бузянілі гразь, альбо пылілі па перасохшым полі.

Прайшло дзесяць гадоў і ў мяне забралі тое свята. Старшынёй райвыканкама тады працаваў В.С.Латушкін. Вясной дзевяноста пятага года прымчаўся мой старшыня калгаса з раёна ўзмылены: "Толькі мы не распачалі сяўбу. Паехалі на поле!" Трактары стаялі заглушаныя на ўскрайку поля, механізатары мірна пляскалі ў карты, чакаючы пакуль падсохне глеба. Старшыня сеў у адзін з тарктараў, праехаў круг-другі і на маё пытанне: "Ну як,пайшло?" рашуча адказаў: "Пойдзе!".




У той год з поля першай сяўбы, якое звычайна прыносіла па 40-50 цэнтнераў зерня з гектара, мы атрымалі толькі па 13 цэнтнераў. Галаву не пакідала крамольная думка: з-за каго так адбылося? Я пачаў працівіцца неразумным указанням. Апошняй кропляй стала жніво.Амаль увесь раён ужо прыступіў да ўборкі недаспелага вільготнага збожжа. Мы чакалі. І дачакаліся! Абураны Латушкін прыехаў да нас і з парога да старшыні: "Ты зноў слухаеш свайго "самага разумнага " агранома? Вы[illegible]ь камбайны і паедзем на поле". Пасля некалькіх няўдалых спроб на розных участках, я не вытрымаў: "Сапраўдны гаспадар не будзе ўбіраць вільготнае зерне, тым больш, што сонца дасушыць яго бясплатна, а за паліва для сушылкі трэба шмат заплаціць". У адказ старшыня райвыканкама прапанаваў мне пакінуць калгас, што я і зрабіў, дапрацаваўшы да заканчэння уборкі. Працуй, таварыш Латушкін!

Сумная гісторыя. Не мяне аднаго, а ўсіх думаючых спецыялістаў, гвалціць сістэма. Сапраўдныя гаспадары даўно сканалі ў сібірскай тайзе. А яны ж умелі накарміць краіну, тады нават прадавалі зерне за мяжу. А вось эксперыментатары засталіся. І, хаця эксперымент не ўдаўся, эксперыментатараў меней не становіцца.

*Працяг будзе.*

*Г.Станкевіч*, у мінулым аграрнік.

«КАРДОН» Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі «Таварыства Беларускай мовы» №2 Верасень 1999 г. Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Алесь Бабаед, Георгій Станкевіч. Тыраж – 299 Адрас: 211350 Бешанковічы Віцебскай вобласці вул. Маладзежная , 9-21
Тэлефон: 2-26-93
Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага філіала «Фонда імя Льва Сапегі» Распаўсюджваецца бясплатна